# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 17 (1667) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 24 КРАСАВІКА 1988 г. ЦАНА 20 зл.

## „Хрысціны" ў Чыжах

Адбыліся яны ў канцы лютага бягучага года. У прасторнай і загадзя прыбранай святліцы ў Чыжах сабраліся тамашнія жыхары: старэйшыя і маладыя. На сцэну выходзіць чыжоўскі хор: жанчыны ў белых блузках з народнай беларускай вышыўкай і мужчыны ў цёмных касцюмах. І пачалося...

Паплылі звонкія мелодыі колішніх, прызабытых ужо песень: „Іванко", „Марысенька", „Тополіна", „Чырвона вішня", „Лугам іду, каня вэду". Пятнаццаціасабовы хор гэта: Яўгенія і Васіль Якімюкі, Марыя і Васіль Івашокі, Оля і Ян Ахрымюкі, Рыгор і Марыя Якімюкі, Марыя і Васіль Гаўрылюкі, Люба Конах, Валянціна Бядрыцкая, Лідзія Гаўрылюк, Ніна Бабрыцкая і Галіна Мартынюк.

Заціхаюць песні. На сцэну ўваходзяць кіраўнік чыжоўскага Загса — Станіслава Яцэвіч і кумы: галоўны бухгалтар гмінный управы Анна Тыханюк і дырэктар мясцовай школы Сяргей Наскевіч. Пачынаюцца „хрэсьбіны". С. Яцэвіч выступае з урачыстай прамовай і дае песеннаму калектыву імя „Чы-

(Працяг на стар. 3)



Галіна Мартынюк, стваральніца чыжоўскага хору. Фота Я. Чэрнякевіч.

## Канферэнцыя беластоцкага аддзела БГКТ

Справаздачна-выбарная канферэнцыя гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку адбылася ў нядзелю 27 сакавіка, а распачалася выступленнем мясцовага хору. Са справаздачна-праграмным дакладам выступіла старшыня аддзела Валянціна Ласкевіч.

У дыскусіі са шматлікімі цікавымі прапановамі выступіў Кастусь Масальскі. А вось некаторыя з іх: — распачаць старанні, каб у Беластоку адбываліся агляды мастацкіх калектываў нацыянальных меншасцей у Польшчы, павялічыць да адной гадзіны ў тыдзень беларускія перадачы ў Беластоцкім радыё, паставіць абеліск у Беластоку беларусам, загінуўшым за народную ўладу і стварыць для БГКТ магчымасці прыгранічнага абмену харавымі калектывамі з БССР.

Сцяпан Копа прапанаваў сур'ёзна задумацца над узбагачэннем свята беларускай культуры ў Беластоку, тым больш, што БГКТ будзе адзначаць 30 гадавіну заснавання літаратурнага аб'яднання „Белавежа", будуць запрошаны пісьменнікі з БССР. Інфармаваў ён, як прадстаўнік Ваяводскага дома культуры, што ёсць магчымасці запрасіць на гэтыя мерапрыемствы мастацкі калектыў з Беларусі.

Далей Сцяпан Копа звярнуў увагу на часта ўжываное ў БГКТ слова „дзеяч Беларускага таварыства". Важна, каб гэтае высокае слова было адэкватнае да названай асобы.

Пётр Юшчук даказваў, што студэнцкая моладзь, як гэта ён сказаў, „збульверсаваная" тым, што быццам бы некаторыя члены Прэзідыума ГП у 1971 годзе выступілі з пісьмом у Міністэрства асветы супраць навучання беларускай мовы, аб чым напісаў Яўген Вапа ў студэнцкім часопісе „Сустрэчы". Непраўдзівае абвінавачванне цалкавіта абвергнулі ў сваіх выступленнях старшыня ГП д-р Аляксандр Баршчэўскі і яго намеснік д-р Янка Зенюк.

Старшыня ГП БГКТ больш затрымаўся ў сваёй прамове на пытанні нізкай нацыянальнай свядомасці беларусаў. Гэта нешта незразумелае. Чым вышэй паднімаецца беларус па драбіне аванcу і кар'еры, тым далей адыходзіць ад сваёй нацыянальнасці, сароміцца яе і часам варо-

(Працяг на стар. 2)

## Гаспадарка пад рэнтгенам

Пад рэнтген кіруюць чалавека, калі ён хворы і неабходна ўстанавіць крыніцу гэтай хваробы. Наша гаспадарка ўжо даўно, больш за дзесяць гадоў, напамінае слабавіты арганізм і таму Ваяводскі камітэт партыі ў Беластоку рашыў прааналізаваць актуальнае становішча прамысловасці Беласточчыны, засярoдзіўшы сваю ўвагу на заданнях партыйных арганізацый ва ўмацаванні прадпрыемстваў як асноўнага звяна ў перабудове гаспадаркі. Пад партыйны рэнтген было пастаўлена звыш 1600 гаспадарчых адзінак. Праведзена было сацыялагічнае апытанне многіх людзей, адказных за гаспадарку на Беласточчыне, наладжана шырокая кансультацыя на прадпрыемствах і ўстановах.

Беластоцкае ваяводства — адно з буйнейшых у Польшчы. На яго тэрыторыі пражывае зараз 680 тысяч чалавек, з якіх толькі каля 200 тысяч асоб (29 прац. жыхароў) заняты ў грамадскім сектары гаспадаркі ваяводства. На гэты сектар якраз у асноўным накіраваны механізмы эканамічнай рэформы. Амаль 700 гаспадарчых адзінак дзейнічае ўжо ва ўмовах поўнага самафінансавання. Нялёгкая гэта справа, калі цэлая нацыянальная гаспадарка ў нашай краіне характарызуецца агульнай нестабільнасцю. Банк, для прыкладу, ацаніў, што толькі 12 прац. прадпрыемстваў у Беластоцкім ваяводстве мае трывалую фінансавую падставу свайго існавання і ім банк заўсёды можа даць крэдыт. У ліку гэтых прадпрыемстваў апынуліся: Беластоцкая фабрыка „Біруна", Гайнаўскі „Гаймаклес", Бельскае будаўнічае прадпрыемства, Бельскае камунальнае рамонтна-будаўнічае прадпрыемства, Беластоцкая гандлёвая база па пастаўках будаўнічых матэрыялаў, прадпрыемства „Дом кніжкі", Беластоцкі „Польмазбыт", гмінныя спулдзельні „Сялянская самадапамога" ў Бельску і Янове, спулдзельня працы „Бельпо", спулдзельня „Народнае мастацтва". Усяго разам ёсць іх крыху больш за 20.

У ліку гэтых гаспадарчых адзінак банк, на жаль, не называе прамысловых гігантаў Беласточчыны, такіх, як „Фасты", „Ухвыты" і „Сяржан". Цікава кіраўніцтва гэтых прадпрыемстваў, іх органы самакіравання і партыйныя арганізацыі не праяўлялі належных турбот за паспяховае развіццё сваёй гаспадаркі? У „Фастах", для прыкладу, чысты прыбытак за 1987 год склаў больш за 4 мільярды злотых. Здавалася, толькі цешыцца і хваліць, бо адначасова гэты ж бавоўняны велікан узмоцніў бюджэт дзяржавы сумай шмат вышэйшай за 5 мільярдаў злотых. Аказваецца, аднак, што адначасова з ростам прыбытку вельмі хутка павялічвалася задоўжанасць „Фастаў" у банку. Менавіта „Фасты" і Беластоцкае прадпрыемства „Унітра-Бязэт" прыналежаць да тых прадпрыемстваў, у якіх наглядаецца са-

(Працяг на стар. 4)

## НА мяжы

Лугі „пад Сушчаю", якія ўжо няраз паяўляліся ў маіх успамінах, ізноў урываюцца ў мае рэмінісцэнцыі. На экране памяці паяўляецца чэрвень далёкага 1946 года. Сенакос. Усе травы ўжо скошаны. Частка сена высушана і зложана ў абарогах. І якраз гэтага сена трэба пільнаваць ноччу. Выгалоджаная вайной Сушча крадзе бандарскае сена і таму трэба ноччу прыйсці з Бандароў, залезці ў абарог і праляжаць да раніцы. „Пад Сушчаю" стаіць каля пятнаццаці бандарскіх абарогаў і каля чатырох-пяці жыхароў Бандароў будзе вартаваць сваё багацце. А заўтра прыдуць наступныя чатыры-пяць бандарцаў. Калі мы тут, сушчанцы не павінны прыйсці, не здарылася яшчэ ніколі, каб дазволілі сабе на адкрытае грабежніцтва, тым болей, што невядома, хто ў вайну прызапасіўся зброяй, а хто не.

Я сёння прыйшоў „Пад Сушчу" з Васілём Міруцём, які мае паласу луга побач з нашым палеткам. Ужо даўно сцямнела. Зрэшты, сцямнела, можна сказаць, толькі ўмоўна. Справа ў тым, што ноч амаль такая светлая, як светлы бывае дзень. Лезу на абарог і завальваюся ў сена. Цеплыня, вакол трашчаць драчы, а калі на момант моўкнуць, раздаецца песня лугавых конікаў. Чвэртку неба займае аграмадны аблок. Яго зубчатыя краі абмаляваны серабром. Так сярэбрыць іх месяц, які досыць хутка выпаўзае з-за аблоку, спіхае яго як бы нагамі на далёкі небасхіл, каб стацца поўным і

## АБ НЕЗАБЫЎНЫМ

адзіным каралём гэтай ночы. Серабрыстыя зоркі рассыпаліся без канца і краю па небе. Ляжу, углядаюся ў нябесные бяздонне, думаю аб сусвеце. І ніяк не магу прыйсці да адназначнага адказу на асноўнае пытанне: хто стварыў сусвет? І як гэта сталася, што хрысціяне, якія з такой станоўчасцю бароняць ідэі існавання Бога як стваральніка сусвету, палілі на кастрах тых, хто гаварыў навукова ўдакументаваную праўду аб некаторых аспектах руху зямлі і планет? Я ўжо ў той час тое-сёе чытаў на гэтую тэму і днём яно бадай бы і не выклікала асаблівага ўражання, а цяпер, ноччу, набірае нейкай дзівоснай выразнасці. Зрэшты, і ў гэтых навуковых тэорыях многа незразумелага. Да канца не магу ўцяміць, як гэта аграмадная зямля можа вісець у паветры і як яна не падае, тым болей, што прыбывае на ёй людзей, а кожны ж мае акрэсленую вагу. І не разумею, чаму сонца так доўга гарыць поўным пажарам, пасылаючы на зямлю збавенные для раслін, звяроў і людзей цяпло, і само ніяк не гасне.

Чатыры дні таму назад нехта прынёс у нашу хату баламутны ліст, у заканчэнні якога было сказана, што трэба яго перапісаць у трыццаці экземплярах. Калі нехта гэта зробіць, сустрэне яго вялікая радасць, а калі не перапіша і не разашле, спаткае яго бяда, а нават смерць. Мы, параіўшыся з бацькам, прыйшлі да вываду, што гэта бязглуздзіца, і я ліст кінуў у печку. А цяпер углядаюся ў неба і ўспамінаецца мне таямнічы фрагмент ліста „колькі ў моры пяску, колькі ў небе зор" і мне робіцца страшнавата. Я крычу суседу: „Васіль, спіш!?". „Не!", — далятае з суседняга абарога. Я памаленьку супакойваюся, хоць не перастаю думаць аб лісце і шкадую, што не перапісаў яго ў трыццаці экземплярах. А месяц узбіраецца ўсё вышэй, а драчы крычаць усё галасней. І нягледзячы на іх крыклівую песню, вакол пануе дзівосны спакой і цішыня. Гадзіннік у мяне няма, зрэшты, увогуле няма яго ў нашай хаце. Жывем паводле прыроднага чуцця, пеўня або сонца. І тут таксама ацэньваю гадзіну прыблізна на першую ночы. Ізноў узіраюся ў млечную дарогу і ўспамінаю Катрынку, якая гаварыла, што па гэтай дарозе вандруюць душы ў рай. І пачынае мне быць неяк не па сабе, бо назойлівай мухай лезе ў галаву пытанне: „Калі я памру?" І чым далей, тым неяк спакайней, гарманійней, цішэй. Гэта незаўважальна падкрадаецца сон да няўдачнага вартаўніка.

Раніцай, калі я прачнуўся, заўважыў на роснай скошанай пожні сляды з боку Сушчы і ў Сушчу, а таксама выскубаны бок абарога. Гэта значыць, што сушчанец прыйшоў і наскубаў мяшок сена. Усё ж-такі рамантыкі бываюць разявамі, і я гэта пацвердзіў. Нягледзячы на гэта, тую чэрвеньскую ноч прыгадваю як цудоўны фрагмент свайго існавання на роднай зямлі. А бацьку ў тым, што не дапільнаваў сена, я не прызнаўся.

**Алесь Барскі**

---

### „ПАН ТАДЭВУШ" У НАВАГРУДКУ

Пра „Пана Тадэвуша" ў перакладзе Браніслава Тарашкевіча, выдадзенага ольштынскім „Паезежам", пісалі мы неаднойчы. Апошнім часам непакоіліся мы, што залежваецца ён на выдавецкіх складах, інфармавалі, што зноў тая кніга паявілася ў кнігарні імпартных выданняў у Беластоку.

Нядаўна нашу рэдакцыю наведала Ліля Усенка, дырэктар Дома-музея Адама Міцкевіча ў Навагрудку. У Беластоку яна затрымалася праездам. Везла з сабой у Навагрудак 2000 экземпляраў тарашкевічаўскага перакладу „Пана Тадэвуша", дар Музея літаратуры імя Адама Міцкевіча ў Варшаве. Ахвяравальнік пажадаў, каб грошы з продажу кнігі былі выкарыстаны на патрэбы навагрудскага Дома-музея.

У гэтым годзе мінае 190 год з дня нараджэння Адама Міцкевіча. Перад будынкам Музея, які стаіць на месцы дома Міцкевічаў, будзе пастаўлены помнік вялікаму польскаму паэту, слаўнаму сыну навагрудскай зямлі.

**В. Луба**

### МАЛАДЗЦЫ НЕ ЛІЧАЦЬ СЯБЕ ЖАНЧЫНАМІ?

Адсвяткавалі сваё жаночае свята жанчыны ў Леўках, што ў Бельскай гміне. Упрыгожыліся свята наведалі мясцовы Гурток гаспадыняў прадстаўнікі ваяводскіх палітычных і адміністрацыйных уладаў. Акрамя кветак і пажаданняў адбыўся і пачастунак, але без так званай чаркі. Можна быць вясёлым, будучы цвярозым.

Восьмага сакавіка жанчыны маладзілі вечарыну, на якую запрасілі і мужчын. Усё было цікава, акуратна, па-людску. Сумна толькі, што не было відаць на гэтым свяце маладзіц, адны бабулі і дзядулі.

**В. Семянюк**

### ПЕРАД ХІ З'ЕЗДАМ БГКТ



ТАМАРА БАРАН

Старшыня маладзёжнага гуртка ў Беластоку, а раней — яго сакратар. Працуе ў Ваяводскім статыстычным упраўленні. Дасканалая самадзейная артыстка. Ужо 10 год належыць да тэатральнага калектыву, якім кіруе Янка Крупа. Калектыў часта выязджае з пастаноўкамі ў вёскі і мястэчкі. Тамара Баран у п'есе Янкі Купалы „Паўлінка" іграе ролю Паўлінкі.

Што датычыцца гуртка, які яна ўзначальвае, у планах працы прадбачвае ён шмат культурных мерапрыемстваў.

— Важна тое, каб гэтыя мерапрыемствы былі выхаваўчымі, — гаворыць Тамара Баран. — Другой немалаважнай справай з'яўляецца супрацоўніцтва з Брацтвам праваслаўнай моладзі. Моладзь у ім беларуская і ўплыў БГКТ на яе неабходны. І ў гэтым напрамку мы накіроўваем свае намаганні. **(мх)**



СЦЯПАН КОПА

Нястомны мастацкі кіраўнік харавых калектываў у Гарадку і Беластоку. Гарадоцкім хорам кіраваў 7 год, калі настаўнічаў там у васьмікласнай школе, і ўжо 14-ты год даязджае з Беластока на яго рэпетыцыі.

Ад 1985 года пад яго мастацкім кіраўніцтвам працуе таксама харавы калектыў гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку.

Цяпер Сцяпан Копа працуе на пасадзе старшага музычнага інспектара Ваяводскага дома культуры ў Беластоку. Многа ўкладае працы ў падрыхтоўку конкурсаў беларускай і савецкай песень.

Справаздачна-выбарная канферэнцыя гарадскога аддзела БГКТ выбрала яго ў праўленне аддзела.

Найважнейшае, на яго думку, каб у склад ГП былі выбраны найбольш адданыя беларускай справе людзі, людзі, кампетэнтныя ў справах культуры і з ахвотай дзеяння. **(мх)**

### КАНФЕРЭНЦЫЯ БЕЛАСТОЦКАГА АДДЗЕЛА БГКТ

(Працяг са стар. 1)

жа да яе адносіцца. Ды яшчэ часта ў нас бывае і так, што чым чалавек матэрыяльна багацейшы, тым духоўна бяднейшы і цалкавіта забывае аб сваіх каранях. На шчасце, ёсць і такія, якіх можна назваць нацыянальнымі падзвіжнікамі. Напрыклад, Юрка Налівайка, які па 10 разоў у месяц за свае грошы ездзіць з Гарадка ў Беласток на рэпетыцыі і канцэрты ды яшчэ спявае ў гарадоцкім харавым калектыве.

Мінулая кадэнцыя, — працягваў Аляксандр Баршчэўскі, — не была страчана; многа зроблена ў ёй для беларускай справы. Але таксама ёсць яшчэ многа нявырашаных спраў. Беларусы не маюць свайго прадстаўніка ў Сейме і радах нарадовых, пісьменнікі, якія пішуць на беларускай мове, не атрымоўваюць ганарараў, беларуская мова ў школах не з'яўляецца паўнапраўнай з іншымі прадметамі.

У праўленне аддзела ўвайшлі 22 асобы. У прэзідыум праўлення выбраны: Валянціна Ласкевіч — старшыня, Тамара Цыунчык і Кастусь Масальскі — намеснікі старшыні, Марыя Леанчук — сакратар, Люба Гаўрылюк — скарбнік, Уладзімір Куршэль, Марыя Ганчарук, Людміла Бушко і Тамара Баран — члены. Пяціасабовую рэвізійную камісію ўзначаліў Пётр Юшчук. Дэлегатамі на ХІ з'езд БГКТ выбраны: Валянціна Ласкевіч, Янка Зенюк, Люба Гаўрылюк, Сцяпан Копа, Тамара Баран, Кастусь Масальскі, Віктар Рудчык, Уладзімір Юзвюк, Лявон Харытанюк і Людміла Бушко.

**Міхась Хмялеўскі**

# „Хрысціны" ў Чыжах

(Працяг са стар. 1)

жоўцы". Хросныя падпісваюцца на спецыяльных дакументах. З віншаваннямі і падарункамі для хору падыходзяць: начальнік гміны Васіль Новік, дырэктар Ваяводскага дома культуры ў Беластоку Казімір Дэркоўскі, дырэктар Гайнаўскага дома культуры Мікалай Бушко і другія. Рэчавую ўзнагароду атрымлівае таксама кіраўнік калектыву Галіна Мартынюк. Публіка дорыць бурныя апладысменты.

Затым мастацкая частка прадаўжаецца. Выступае жаночы хор „Незабудкі" з Курашава. Пасля салісткі і дуэт армейскіх калектываў. Усім вельмі спадабаліся рускія і беларускія мелодыі. Воплескам не было канца.

На заканчэнне неспадзеўка. Дырэктар Гміннага асяродка культуры Юрка Якімюк апавяшчае выступленне шырокавядомага саліста — Юрыя Налівайкі з Гарадка. На сцэну выходзяць са Сцяпанам Копам, які акампаніруе салісту. Ізноў паплылі чароўныя задушэўныя песні „Малінавы звон", „Вы шуміце, шуміце". Затым яшчэ — цяпер ужо абодва — спяваюць на „біс". Незабыўны фінальны акорд.

І так непрыкметна прайшлі ажно тры гадзіны. Столькі ўражанняў. Гледачы прыемна ўзрушаныя. Вось дык незабыўны вечар! Вялікае свята музыкі.

„Хрысціны" на тым не закончыліся. Гасцей просяць за стол на пачастунак. Прымаюць „чым хата багата". Былі тосты і застольныя песні. Урачыстасць закончылася народным гуляннем.

Гутару з солтысам Чыжоў МікалаемІлькевічам і яго жонкай Оляй.

— Жанчыны ў нас дружныя, — кажуць. — У нас існуе актыўны трыццаціасабовы гурток вясковых гаспадынь. Арганізоўвае ён кулінарныя і вяндлярскія курсы. Пашырае культурную дзейнасць. Кабетам дапамаглі фінансава Кааператыўны банк у Гайнаўцы — прызначыў 80 тысяч злотых — ды салэцкая рада суседняй вёскі Асоўка — дзесяць тысяч злотых і яны змаглі купіць сабе „строі" — вышываныя белыя блузкі.

Знаёмімся з Галінай Мартынюк. Яна сказала:

— Хор існуе ўсяго год. На рэпетыцыі збіраемся кожны тыдзень у клубе селяніна або святліцы ГОКу. Фальклорных песень маем дастаткова ў запасе.

У мінулым годзе, 7 лютага, мы ездзілі на агляд калляднай песні ў Монькі, былі на майскім святкаванні (Свята людовае) у Дубічах-Царкоўных, на дажынках у Койлах. Не адмовілі таксама выступіць у Кленіках.

У бягучым годзе, 14 лютага, паехалі на раённыя элімінацыі „Беларуская песня-88" у Гайнаўку.

У хоры выступае пяць мужчын. Хапае нам басаў. Патрэбны са два тэнары. Нашым спевакам хочам заказаць вышываныя кашулі ружовага колеру. Адкуль толькі ўзяць грошы?

Але думаю, што ўсе з гэтых спраў так адразу не вырашыш. Усе мы, аднак, хочам быць аптымістамі.

Тэкст і фота
**Я. Целушэцкага**

P.S. Як стала вядома, чыжоўскія жанчыны паспяхова выступілі на цэнтральным аглядзе „Беларуская песня'88 у Беластоку.



Спявае толькі што ахрышчаны хор „Чыжоўцы".



Урачысты момант „хрысцін".



Дырэктар Ваяводскага дома культуры К. Дэркоўскі віншуе „чыжоўнаў".



Оля Ахрымюк не толькі спявала песні, але і дэкламавала вершы.



На свята ў Чыжы прыехалі „Незабудкі" з Курашава.

# ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


## Удзельніцы дэкламатарскага конкурсу



*Юліта Баршчэўская, вучаніца 2 класа з Трасцянкі.*



*Аліна Іванюк, вучаніца 7 класа з Крыўца.*



*Гражына Трафімюк, вучаніца 8 класа з Трасцянкі.*

**Фота Я. Чэрнякевіч.**

## ВАСІЛЬ ХОМЧАНКА
## АПАВЯДАННІ ПРА СЯРГЕЙКУ

### ДЗЕДАВЫ КАЗКІ

Сяргейка вельмі любіць казкі слухаць. Прыстае да дзеда: раскажы ды раскажы яму казку. Дзед адну расказаў, другую, а яму ўсё мала.

— Дзе ж я набяруся табе столькі казак? Усе расказаў, што ведаў.

— З рота свайго.

І ўгаворыць дзеда.

— Ну дык слухай, — пачынае дзед. — Жыла-была ўнучка Маша. Пайшла яна неяк да бабулі ў госці. Ідзе па лесе, песенькі спявае. А насустрач ёй — воўк. Шэры, ікласты, галодны. „Маша, Маша, я цябе з'ем", — кажа воўк.

— Стой, дзед, — спыняе яго Сяргейка. — Я зараз стрэльбу вазьму. Ваўка напужаю.

Сяргейка прыносіць з другога пакоя сваю стрэльбу, кладзе яе на калені.

— А Маша ваўку і гаворыць: „Заўтра, воўча, з'ясі мяне, заўтра. А зараз хутчэй уцякай. Вунь паляўнічыя са стрэльбамі і сабакамі едуць. Чуеш, колы стракацяць?" Воўк прыслухаўся, пачуў стук і ўцёк. А то не паляўнічыя ехалі, а дзяцел па дрэве стукаў.

— Добра ашукала, — смяецца Сяргейка. — А далей што?

— А далей Мішка крывалапы сустрэў Машу і — цап! — яе за руку. „Што нясеш? Можа, мёд?" — пытае.

Сяргейка просіць дзеда, каб ён памаўчаў, прыкладвае да пляча стрэльбу, націскае кручок і крычыць:

— Бах! Забіў мядзведзя.

— А навошта? — дзівіцца дзед. — Мішка ж добры.

— Добры? Ну тады я назад стрэлю.

І зноў ляскае курком.

— Бах! Усё. Мядзведзь зноў жывы.

Дзед расказвае, як Маша прывяла касалапага Мішку да бабулі, як мядзведзь нанасіў з лесу дроў, выпаліў у печы, Машу дамоў праводзіў. І казка скончылася.

— Яшчэ адну казку. Ну, дзядуля...

— Усё, позна ўжо. Спаць трэба.

Дзед вядзе Сяргейку ў спальню, укладвае спаць і на сон спявае песеньку.

— Песню не трэба. Лепш казку. Толькі не страшную.

— Заўтра.

— Пра зайчыка-пабягайчыка, дзядуля... Добра?

— Добра, добра. Спі, а то прыйдзе той Мішка-мядзведзь і скажа: „Непарадак! Дзевяць гадзін вечара, а Сяргейка не спіць".

Сяргейка сцішваецца, а потым гаворыць:

— А ў мядзведзя гадзінніка няма. Вось.

Дзед смяецца, расказвае яшчэ адну казку, на гэты раз пра зайку, і Сяргейка засынае.

### БЕГЛА МЫШКА

Казку пра мышку Сяргейка расказвае разам з дзедам. Вось так:

— Жылі-былі, — пачынае дзед.

— Дзед і баба, — падхоплівае Сяргейка.

— Была ў іх...

— Курачка рабка.

— Знесла курачка...

— Яечка, — гаворыць Сяргейка.

Гэтую казку вы ўсе добра ведаеце. А калі хто забыў, то напомнім. Тое яечка, што знесла рабая курачка, у дзеда з бабаю доўга не паляжала. Бегла шэрая мышка, махнула хвосцікам і скаціла яго з лавы. Яечка разбілася. Заплакалі дзед і баба ад жалю. А курка ім кажа: „Не плач, дзед, не плач, баба. Знясу вам яечка другое, ды не простае, а залатое."

Вельмі любіць Сяргейка гэтую казку.

Аднойчы дзед купіў у магазіне дзесятак яек, прынёс іх дамоў і паклаў у кухні на стол. Сяргейка ўбачыў яйкі і сам, без дзеда, пачаў расказваць казку:

— Жылі-былі дзед і баба. Была ў іх курачка рабка. Так, дзед?

— Так, унучак.

— Знесла курачка яечка. Вось гэтае. Знесла другое... — Сяргейка адклаў убок яшчэ адно яечка. Далей лічыць ён не ўмеў і сказаў: — Знесла многа, многа, многа яек. А тут бегла мышка...

Сяргейка растапырыў паль-

(Працяг на стар. 10)

## ЕЯСНА

Прыбег прамень,
ад сонца ясны веснік,
І абвясціў людзям:
вясна ідзе!
Выходжу я сустрэць
красуню песняй
І прывітаць той песняю
людзей.
Красуй, вясна,
як і мая Радзіма!
Вясёлкаю стаіш ты уваччу. —
З табой і для цябе я
жыць хачу.

Язэп Пушча

### ЖАЎРУК

Ледзь вясною ў паветры
запахла,
і ледзь сонца ўзнялося
ўгару, —
з першым ветру паўднёвага
ўзмахам
прыляцеў нецярплівы жаўрук.

Толькі досвітку золак затлее
Першай руннэю спадзе
на раллю —
серабрыстыя, звонкія трэлі
жаўрукі на загоны
пральюць.

І араты выходзіць аглядваць
неадталыя скібы зямлі:
сэрца сціcне вясняная радасць,
на руках засвярбяць мазалі.

В. Таўлай

---

Ніл Гілевіч

### ВІТАЮ ВЯСНУ

Мне сягоння роўна сем,
Я ўжо не малая:
На грудзях — глядзіце ўсе —
Зорачка палае!

Я іду, а вокан шкло
Зіхаціць прыветна.
Горад сонцам заліло.
Цёпла. Чыста. Светла.

Ад зялёных ліп наўкол
Водар-пах разліты,
Я махаю ім рукой:
— Добры дзень вам, ліпы!

Кветкі весела глядзяць,
Разамкнуўшы вейкі.
І я рада прывітаць:
— Добры дзень вам, кветкі!

Птушкі свішчуць там і тут,
Пырхаюць пяюшкі.
Ім таксама мой салют:
— Добры дзень вам, птушкі!

Добры дзень, вясна-красна,
Як ты люба ўсім нам!
Прыгажэй цябе няма,
Слаўная часіна!

### ШПАК

Ён цяжкі шлях пераадолеў,
Пакуль вярнуўся ў родны край.
Затое вось яно — раздолле:
Жыві ды ў радасці спявай!

Смяецца сонца. Дзень прыгожы.
А шпак ля доміка свайго
Сядзіць і кліча ўсіх прахожых
Паслухаць песеньку яго.

Ідуць дарослыя і дзеці,
І кожны чуе гучны спеў:
— Глядзіце ўсе, усе глядзіце:
Вясна прыйшла! Я прыляцеў!

## Малюнкі школьнікаў



*„Дождж па дарозе ў школу“. Малюнак Элі Каролька, вучаніцы трэцяга класа з Барысаўкі.*

## Вясёлы куточак

— Ваш сабака з'еў маю курку, — скаржыцца сусед суседу.

— Ой, добра, што вы мне пра гэта сказалі. Не трэба будзе даваць яму вячэры, — адказвае сусед.

* ✻ *

— Тата, я сёння зарабіў 15 злотых.

— Як? — дзівіцца тата.

— Замест паехаць аўтобусам пабег пешшу.

— Але ж ты дурны. Трэба было не замест аўтобуса пабегчы, а замест таксі. Тады зарабіў бы больш.

* ✻ *

Павел хоча паясніць свайму брату, што такое люстра.

— Ну, куды ты глядзіш, калі хочаш ведаць, ці чыста ты памыўся?

— На ручнік...

* ✻ *

— Ганка, чаму ты сёння ўжо другі раз падлогу мыеш?

— Бо ў наступную суботу ў мяне часу не будзе.

* ✻ *

— Ты памыляешся, гаворачы, што гук хутчэй даходзіць, чым святло, — гаворыць Пеця малодшаму брату.

— Не памыляюся, — адказвае той. — Магу табе даказаць. Глядзі, як уключыш тэлевізар — спачатку пачуеш голас, а потым толькі паявіцца нешта на экране.

## Пазнаёмімся

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 8, кв. 102. Анфіса Карпейчык. 3 клас.

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 90-А, кв. 2. Аня Сакольчык. 3 клас.

* ✻ *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Р. Люксембург, 176, кв. 75. Таня Старавойтава.

* ✻ *

БССР, 220036, Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 3-А, кв. 134. Наташа Дзем'яновіч. 3 клас.

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Хмялеўскага, 20, кв. 3. Люда Акуліч. 5 клас.

* ✻ *

БССР, 220035, г. Мінск-35, вул. Заслаўская, 17, кв. 113. Андрэй Лявончык. 3 клас.

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 96, кв. 22. Павел Бачарнікаў. 7 клас.

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 23, кв. 27. Сяргей Сабаленка. 7 клас.

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 6, кв. 28. Павел Філіповіч. 2 клас.

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 9, к. 2, кв. 31. Лада Баравец. 5 клас.

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 8 кв. 29. Руслан Шпілеўскі. 4 клас.

### АПАВЯДАННІ ПРА СЯРГЕЙКУ

(Працяг са стар. 9)

чыкі, і яны пабеглі, як мышыныя ножкі, па стале.

— Бегла мышка, — паўтарыў Сяргейка і зірнуў на дзеда, — махнула хвосцікам. Вось так. — I Сяргейка штурхнуў яйка пальчыкам. — А яечка — бух.

Яйка скацілася са стала і разбілася.

— Ты што ж гэта робіш? — строга спытаў дзед.

— Гэта не Сяргейка, гэта мышка сваім хвосцікам.

Хлопчык падбег да дзеда, абняў за калені і пачаў расказваць казку далей:

— Не плач, дзед, не плач, баба, знясе вам курачка яечка другое, не простае, а... якое, дзядуля?

— Залатое, — сказаў дзед і падхапіў унука на рукі.

## Слаўныя людзі Беларусі

### КЛІМ СМАЛЯЦІЧ

Равеснік Полацка, магутны Смаленск — старажытны горад беларускага племя крывічоў — славіўся сваёй веліччу і заможнасцю. Ён рана стаў сталіцай вялікага і моцнага Смаленскага княства. Багацеў і рос горад не толькі дзякуючы працавітасці рамеснікаў і сялян, але і расторопнасці купцоў. На абшары, дзе прасціралася Смаленскае княства, бяруць пачатак вялікія рэкі Волга, Днепр, Дзвіна, Ловаць. Па іх плылі ў розныя блізкія і далёкія гарады і краіны смаленскія купцы, імі прыбывалі ў Смаленск „госці“. Тады „гасцямі“ называлі чужаземных купцоў. Адтуль і павяліся ў нас назвы: „гасцінец“ — шлях, па якім ездзяць чужаземныя купцы, і „гасцінец“ — рэч, набытая ў іх, цяпер „гасцінцам“ мы называем атрыманы ад каго-небудзь падарунак. У Смаленск „госці“ прыбывалі па Волзе — з краін Сярэдняй Азіі, па Дняпры — з берагоў Чорнага мора і Візантыі, па Дзвіне і Ловаці — з Заходняй Еўропы. Прыязджалі яны таксама „гасцінцамі“ з Польшчы, Нямеччыны, Венгрыі і іншых краін. На смаленскіх кірмашах можна было набыць тавары з розных бакоў свету, а на вуліцах чуліся чужаземныя мовы.

Горад разрастаўся і мацнеў. Дзякуючы стараннням будаўнікоў акружалі яго магутныя сцены і вежы. У ім красаваліся княжацкія харомы, купецкія дамы, узвышаліся купалы прыгожых цэркваў. Штораніцы многа малых смалян спяшалася ў манастырскія школкі і пільна вучыліся чытаць, пісаць, рахаваць, бо без таго ні купцом, ні рамеснікам аніяк стаць нельга было.

Хадзіў у такую ж школку і хлопчык Клім. Сярод сваіх аднагодкаў ён вылучаўся пільнасцю ў навуцы і замілаваннем да чытання. Калі падрос, стаў дапамагаць настаўнікам-манахам перапісваць кнігі. Затым пастрыгся ў манахі, і ў манастырскай школцы навучаў дзяцей грамаце. У вольны час заглыбляўся ў вывучэнні твораў старажытных пісьменнікаў. Свае думкі, разважанні і спасцярогі выказваў не толькі ў размовах і пропаведзях, але таксама на пісьме. Падпісваўся ён — Клім Смаляціч, гэта значыць — Клім са Смаленска.

Смаляціч заклікаў суродзічаў да працавітага жыцця, скромных паводзін і сваёй асобай даваў прыклад іншым. „Замест дамоў, і вёсак, і пасекаў, і поля, нявольнікаў і парабкаў — у мяне чатыры локці зямлі на магілу сабе“, — пісаў. Ён заахвочваў людзей вучыцца і разважаць, каб спасцігнуць, як на свеце ўсё „існуе, кіруецца і ўдасканальваецца“.

У летапісе гаворыцца, што Клім Смаляціч „быў такім адукаваным і мудрым чалавекам, якога не бывала на Русі; ён быў начытаны, меў настаўніцкі талент, валодаў вялікімі ведамі, склаў і запісаў многа твораў“. Яго ў 1147 годзе абралі мітрапалітам кіеўскім і ўсяе Русі і ён шмат год узначальваў праваслаўную царкву ва Усходняй Славяншчыне. Руссю тады называлі цяперашнія беларускую, рускую і ўкраінскую землі, або інакш — Усходнюю Славяншчыну.

Гады нараджэння і смерці Кліма Смаляціча невядомыя. Ён быў сучаснікам Ефрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага. Глыбокая адукаванасць гэтых трох выдатных беларусаў красамоўна сведчыць пра высокі ўзровень асветы і культуры на беларускіх землях у тыя часы.

**Мікалай Гайдук**

## ЗАГАДКІ

**пра з'явы прыроды**

1. Мяне рэжуць, мяне б'юць, а я за гэта не злуюся, яшчэ лепшай станаўлюся.

2. Еду, еду на сівым дзеду, сухалінай паганяю, на смерць паглядаю.

3. Крыкнуў вол на сто гор, на сто рэчак, на сто печак, на сто цагляных каміноў.

4. Ляціць без крыл, бяжыць без ног.

Адгадкі: Глеба. Лодка на рэчцы. Гром. Хмара.

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



*Замалюй палі, азначаныя кропкамі. Што выйшла?*



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok. ul. Wesołowskiego 1 „Зорка“.

## РАСТЛУМАЧЫЛА

Вясковай вуліцай ідзе праезджы чалавек. Сустрэў маленькую дзяўчынку:

— Як мне прайсці да Дома культуры? — пытае.

А яна:

— Ідзіце проста і проста, а каля маёй хаты павярніце направа!

## ПАСПРАБУЙ ПАСАДЗІ

— Чаму ты, Іван, кожны дзень на працы? Ты ж ужо на пенсіі, мог бы хоць трохі дома пасядзець каля жонкі.

— Ідзі сам каля яе пасядзі, пабачу, ці ты ўседзіш.

## НЕЧАКАНАСЦЬ

— Перагарнуў вось сынаў дзённік і ледзь не страціў прытомнасці.

— Што — шмат двоек нахапаў?

— Ды не, выяўляецца, ён ужо ў чацвертым класе вучыцца!

ГУМАР З БАРАДОЮ

## АБОЕ РАБОЕ

— У мяне быў адзін знаёмы, які ў цемнаце без лямпы чытаць мог.

— Э, гэта нічога дзіўнага! Вось наш начальнік пошты дык закрыты ліст праз канверт пазнае.





## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Адвакат пытаецца ў пацыента:

— Пан Берклі, што вы маеце супраць вашай жонкі? Яна ж такая прыгожая...

— Мае чаравікі таксама прыгожыя, але каб вы ведалі, як яны мне ціснуць!..

— ✳ —

Суседу не далі персанальнай пенсіі. Той аж сінеў ад злосці і ўсё скардзіўся Пракопу:

— Ну, за што мяне так, га, Пракопа?! Я ж усё жыццё ўвесь свой талент аддаў агульнай справе...

— Супакойся! — паляпаў па плячы суседа Пракоп. — Талент абышоў цябе бокам і добра зрабіў... Бо ты яго ўсё роўна загубіў бы...

— Гэта ж чаму? — лыпаў вачамі сусед.

— Па скнарнасці!..

*С. Паўлаў*

## З „Веснікa Задрыпоніі"

### НОВАЕ

Светафор новага тыпу сканструяваны на апаратным заводзе г. Універсалава. Апрача традыцыйных трох агнёў, ёсць чацверты — сіні, які папярэджвае аб тым, што светафор не працуе.





Каб можна было наліць піва ў падстаўлены куфаль, трэба адпаведна перасунуць рычаг, каб затычка высунулася з бочкі ў кірунку, які паказвае стрэлка. У які бок трэба перасунуць рычаг? На адказ прапануем: дзве мінуты для тэхнікаў і дзесяць мінут для гуманістаў.

Адказ: Рычаг трэба перасунуць у бок В.

## Курʼёзы

### НАГЛЯДНАЯ АГІТАЦЫЯ

Доўгі час паліцыя заходнегерманскага гарадка Фрыдберг нічога не магла зрабіць з вадзіцелямі, якія перавышалі хуткасць. Ні папярэджанні, ні высокія штрафы не памагалі. Урэшце рашэнне праблемы было знойдзена. Гарадскія ўлады набылі за 1000 марак два знявечаныя ў аварыі аўтамабілі і ўстанавілі іх пры ўездзе ў Фрыдберг. Эфект перавысіў усе спадзяванні: цяпер ліхачы, якія разлічвалі праскочыць гарадок на хуткасці 100 кіламетраў у гадзіну, убачыўшы знішчаныя машыны, умомант скідаюць газ.

### МЕНЮ ДЛЯ ФАКІРА

Незвычайную аперацыю правялі хірургі адной з бальніц Калькуты. На аперацыйным стале аказаўся прафесійны факір. Лекары дасталі з яго страўніка 20 сцізорыкаў, дзесятак рыбалоўных кручкоў, мноства ключоў і іншых жалезак.

Паправіўшы сваё здароўе, факір пакінуў бальніцу з тым, каб зноў заняцца сваім рамяством.

З суседскага агародчыка

# НЕ ДАБРАЎСЯ

Расказ дзеда Сымона

Нейк вясновым адвячоркам
Я таптаўся на падворку.
Раптам бачу: паштальёнка
З тэлеграмамі ляціць.

— Шавяліся, дзед Сымонка,
Госці будуць — тры зайцы!

Ну, а што тут шавяліцца —
Мне любы не страшны госць.
Хоць не ўмею я хваліцца,
Ды скажу: заўсёды ёсць
Малачко, тварог, смятана,
Сала, мяса, агуркі,
І пірог такі духмяны,
І салёныя грыбкі,
І, вядома, ёсць каўбаска.
Дык частуйся, калі ласка.
Толькі — стоп!
Не ўсё тут штосьці

Не хапае... А чаго!..
А, вядома! Што за госці
Без гаручага таго...
Ды таго, якім спрадвеку
Запраўляюць чалавека...

Два зайцы жывуць у Слуцку,
Аж у Мінску трэці заяц.
Гэта ж будзе не па-людску
Ім па чарцы не падаць.

Але чым напоўніць чаркі?
Не нальеш жа ў іх саляркі.
А сваё... зусім звялося...
У мінулую шчэ восень,
Як здавалі буракі,
Разумееце, браткі..
А ў вясковай нашай краме...
Там не пахне і духамі,
І не пойдзеш у пазыкі
Па сівуху да людзей,
Бо за гэта штраф вялікі
Схопіш хутка ў нарсудзе.
Але тут мяне старая,
Мой начальнік, падзывае:

— Я даю табе пуцёўку
У райцэнтр па „Зуброўку".
Возьмеш пляшку каньяку
(Гэта мінскаму зайцу),
Прыхапі там і „Агдаму".
Толькі сам — глядзі!.. Ні грама!
Вось чаргу ля крамы зранку
Першым я заняў на ганку.
Ля пустых яшчэ вітрын
Скалаваў я не адзін,
Шмат народу прывалiла
Па гарэлку і „чарніла".
А ў абед мо праз хвіліну
Да славутай крамы віннай
З-за вуглоў і падваротняў
Налягела больш за сотню.
(Я адзначу паміж намі —
Непрыемных напагляд:
Усё з сінімі насамі,
Не чарга — слівовы сад).
Вось і дзверы адчынілі,
Тут мяне і паваліі...
І па мне ўжо напралом
Усе лезуць за віном,
І нагамі душаць грудзі.

Я хрыплю: „Ратуйце, людзі!"
Толькі ім не да мяне,
Іх жа клопат — аб віне...

Дык каторы моўчкі прэцца,
А другі яшчэ злуецца:
— Ах нягоднік, ах наркот,
Пень стары і абармот,
Змог вось зранку налізацца,
Каб на людзях паваляцца!

Пруць па мне і маладзіцы,
Толькі модныя спадніцы
Шаргацяць па барадзе...
Зразумеў я: смерць ідзе!
Развітацца з белым светам
Давядзецца мне вось гэтак.
У вачах мігалкі-промні,
Потым чорныя кругі...
Больш нічога я не помню,
Праваліўся ў свет другі...
Ачнуўся, як за каўнер
Прыпаднуў
міліцыянер.
— Што ж, дзядуля, так набраўся!
— Не, сынок, я не дабраўся...
І ў той момант я пакляўся,
Што на гэты ганак болей
Не ступлю нагой ніколі.
Вам цяпер усім цікава,
Чым закончылася справа,
Як сустрэўся я з зайцамі,
Тымі роднымі гасцямі.
Хоць самому верыць цяжка,
Не было ніводнай пляшкі.
Замест він і каньякоў
„Ужывалі" малако,
Бо зайцы ж у таварыстве,
Дзе не п'юць ні 100, ні 300.

**Уладзімір Сіткік**